Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена
ад 9 да 19 г.

Часапіс
выходзіць
раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 11 (20) Вільня, 5-га кастрычніка 1937 г. Год II.

## Асновы каапэратыўнага дэмакратызму.

Дагэтуль мы разглядалі сутнасьць дэмакратызму агулам бяручы, яго асновы і разнаякасьць ягоных формаў, а цяпер пяройдзем да разгляду сутнасьці і асноў *каапэратыўнага* дэмакратызму.

Якія-ж гэта будуць асновы?

Першай асновай—праца і супрацоўніцтва, другой—прыватная ўласнасьць, трэцяй — бясклясавае грамадзянства, чацьвертай—каапэратыўна-дэмакратычная культура. Затрымаемся над кожнай з гэтых асноў.

Перадусім **праца і супрацоўніцтва**. Каапэратывізм ставіць працу вельмі высока. Ужо само слова „каапэратывізм“ азначае ня што іншае, як „супрацоўніцтва“ і вымагае працы як першага і галоўнага варунку. Бяз працы немагчыма супрацоўніцтва. Дзеля гэтага тыя людзі, якія станавяцца на грунт каапэратывізму, павінны быць людзьмі працы. Усё адно якой працы: фізычнай ці разумовай, земляробскай ці рамесьніцкай, „чорнай“ ці інтэлігенцкай, асабістай ці грамадзкай. Мы пісалі ўжо ў 1 н-ры „Б. Фр.“ сёлета, што працай будуецца ўсё на сьвеце, а ў тым ліку і Беларусь. Працай будуецца культура, эканоміка, дабрабыт. Калі чалавек працуе прадусім для сябе і на сваю карысьць, тады будзе праца асабістая, а калі чалавек працуе прадусім для грамады, праца будзе грамадзкая. Каапэратывізм вымагае працы асабістай, каб працай здабыць *пай*, патрэбны для каапэрацыі, і вымагае працы грамадзкай, каб злучыўшы паі,ісьці супольнымі сіламі да лепшага дабрабыту. Дзеля гэтых прычын каапэратывізм вымагае працы, як канечнага варунку, асабліва працы грамадзкай. Каапэратывізм, як мы ўжо сказалі, ёсьць супрацоўніцтвам, а супрацоўніцтва без грамадзкай працы немагчыма. У каапэратывізьме ад працы звольнены толькі той, хто працаваць ня можа.

Разважаючы далей патрэбу і канечнасьць працы, мы прыходзім да вываду, што праца і толькі праца дае чалавеку поўныя грамадзкія правы. Трэба тут сьцьвердзіць, што *асабістая* праца дае чалавеку толькі пачаткавыя правы ў грамадзкім і дзяржаўным жыцьці: дае яму права ўступіць у кожную грамадзкую ўстанову: каапэратыву, культурную ці палітычную арганізацыю і г. д., дае права галасаваць ва ўсе дзяржаўныя і самаўрадавыя ўстановы. Але поўныя грамадзкія правы здабывае толькі той, хто належыць і працуе ў якой грамадзкай арганізацыі і гэтым бярэ ўдзел у грамадзкім жыцьці.

Апіраючыся на грамадзкай працы людзей, каапэратывізм будуе *гіерархічны строй* у дзяржаве. На падставе каапэратывізму творыцца першая ячэйка грамадзкага жыцьця — воласьць; воласьці твораць вышэйшую ўстанову — павет, а ў далейшым творыцца гаспадарства — дзяржава. Такім чынам ад малой каапэратывы, ад малога злучэньня людзей дзеля супрацоўніцтва, даходзім да вялікай каапэратывы – да дзяржавы. Дзяржава павінна быць збудавана на падставе каапэрацыі грамадзян. Толькі той чалавек, які *супрацоўнічае* з іншымі людзьмі, мае поўныя грамадзкія правы і то на падставе сваей грамадзкай працы. Супрацоўніцтва можа адбывацца ў каапэратывах (вытворчых, спажывецкіх і іншых), у самаўрадавых і дзяржаўных установах, а нават у палітычных партыях. На палітычныя партыі каапэратывізм глядзіць як на палітычныя каапэратывы, якія маюць заданьне нармаваць і палепшаць палітычнае і грамадзкае жыцьцё.

Разгледзейшы значэньне працы і супрацоўніцтва, як першай асновы каапэратыўнага дэмакратызму, пярэйдзем да **прыватнай уласнасьці**. Перш за ўсё трэба сьцьвердзіць, што каапэратывізм астаўляе прыватную, індывідуальную і грамадзкую, ўласнасьць. Робіць гэта з двух прычын: *першая*— каб даць магчымасьць каапэрацыі, якая бяз прыватнай (індывідуальнай) уласнасьці немагчыма, а *другая* — каб даць кожнаму як найбольшую незалежнасьць, якая існуе толькі пры прыватнай уласнасьці. У каапэратывізьме прыватная ўласнасьць ёсьць паем, які ўносіць кожны каапэратывіст у эканамічнае жыцьцё. Кожны ведае, што бяз паю каапэрацыя немагчыма, а пай у эканамічнай каапэрацыі — гэта якраз прыватная, асабістая ўласнасьць. Камунізм (сацыялізм) касуюць прыватную ўласнасьць і гэтым самым робяць чалавека пралетарам, а пралетар — гэта раб, гэта нявольнік дзяржавы. Ен, ня маючы пад сабою *собскага* грунту, ня маючы *свайго* варштату працы, *свайго* дому, *свайго* месца на зямлі, ёсьць залежным ад тэй партыі ці таго рэжыму, які ў даным часе пануе і ёсьць лётным пяском, перакіданым з месца на месца. Жыцьцё на даўжэйшую мэту ў такіх варунках немагчыма. Чалавек, ня бачачы для сябе ніякай карысьці, траціць ахвоту да асабістай і грамадзкай працы. Дзеля гэтых прычын мы за прыватную ўласнасьць.

Але гэтую ўласнасьць трэба аграгічыць, трэба яе памагчымасьці зраўняць, з тым, каб паміж людзьмі ня было гэтакай маемаснай няроўнасьці, якая існуе цяпер. Хоць мы ведаем, што вялікім ворагам роўнасьці ёсьць сама прырода, якая няроўна надзяляе людзей сваімі дарамі, то ўсёжтакі мы павінны імкнуцца да *магчымай* роўнасьці. Каб дайсьці да яе, трэба правесьці радыкальную зямельную рэформу, так, каб абшары, належачыя да адзінак, зьніклі з вобліку зямлі, але каб кожны працуючы на зямлі меў свой варштат працы, які забясьпечыў-бы яго існаваньне; трэба перадаць каапэратывам прыватным або дзяржаве фабрыкі і вялікія прадпрыемствы; трэба перабудаваць гандаль на каапэратыўных асновах, трэба пашырыць рамесьніцкія і вытворчыя каапэратывы і г. д. Такім чынам каапэратывы памалу абхапілі-б усё грамадзкае жыцьцё.

Цесна зьвязанай з дзьвяма папярэднімі асновамі і выплываючай з іх ёсьць трэцяя: **бясклясавае грамадзянства**. Пры каапэратыўным ладзе клясы зьніклі-б самі сабою, бо працаваць будуць усе, а пры найдалей пасунутай роўнасьці падзелу грамадзкага дабра і даходу, зьнікл-б клясавыя супярэчнасьці і стварылася-б *адна кляса працоўных*. Пры такіх варунках ня было-б і клясавай барацьбы, што ашчадзіла-б для нацыі шмат энэргіі, якую можна было-б скіраваць у кірунку творчасьці. У каапэратыўным грамадзтве былі-б толькі прадуцэнты і спажыўцы, прыгэтым прадукцыя кіраванай была-б патрэбамі спажыўцоў. Выключаным было-б таксама гандлярскае пасрэдніцтва паміж прадуцэнтам і спажыўцом, бо спажыўцы кантактаваліся-б беспасрэдна (праз каапэратывы) з прадуцэнтамі і гандляры, якія зарабляюць на пасрэдніцтве, аказаліся-б лішнімі.

На гэтакіх асновах апіраецца каапэратывізм, а разам з ім і каапэратыўны дэмакратызм.

З таго, што мы дагэтуль сказалі, бачым, што ў каапэратывізьме ёсьць сапраўдны і поўны дэмакратызм. Пры гэтакім дэмакратызьме найвышэйшая правадаўчая ўлада знаходзіцца ў руках грамадзян; выканаўчая ўлада выбіраецца ўсімі; касуецца маемасная няроўнасьць; даецца права крытыкі і прапаганды ў граніцах ухваленага права; захоўваецца свабода сумленьня, слова, арганізацый і асабістага дзеяньня ў межах каапэратывістычнай канстытуцыі.

Але каб дайсьці да гэткага дэмакратызму і яго захаваць, патрэбна **каапэратыўна — дэмакратычная культура**. У чым-жа яе сутнасьць?

Перш за ўсё ў грамадзкім усьведамленьні, якое дае зразуменьне ня толькі сваіх правоў, але і абавязкаў. Да ўсьведамленьня даходзіцца праз *асьвету*, затым каапэратывізм зварочвае вялікую ўвагу на асьвету і ўзгадаваньне народных мас у гэтым кірунку, асабліва моладзі. Разам з усьведамленьнем аб патрэбе супрацоўніцтва павінна прыйсьці і прakананьне аб патрэбе *сумленнасьці* ў супрацоўніцтве. Сьцьверджана ўжо няраз, што кожнае супрацоўніцтва, кожная каапэрацыя разьлятаецца, калі акажацца, што сябры ня былі сумленны ў выконываньні сваіх абавязкаў. Нясумленнасьць благіх людзей не павінна адстрашваць ад добрых пачынаньняў. „Калі людзі будуць настолькі асьвечаны і выраблены, каб магчы злучыцца ў каапэратывы, ніякая сіла іх ад гэтага ня ўдзержыць“, казаў англ. эканаміст Кінг, дзеля гэтага найбольшы націск клаў на асьвету і моральнае выпрацаваньне людзей. На гэтыя-ж справы павінны палажыць націск усе каапэратывісты, каб гэтым прычыніцца да пашырэньня каапэратыўна-дэмакратычнай культуры, а разам з ёю да сапраўднага, бо каапэратыўнага дэмакратызму.

Робячы вывады што да сутнасьці каапэратыўнага дэмакратызму, трэба сьцьвердзіць, што ён будзе мець моцную базу ў найдалей пасунутай сацыяльнай роўнасьці, без якой сапраўдны дэмакратызм немагчымы; ў абавязку працы ўсіх грамадзян, з выключэньнем карыстаньня з іх працы элемэнтаў непрацуючых; у перадачы ў рукі ўсіх грамадзян як эканамічнага, так грамадзкага, культурнага і палітычнага жыцьця. Да гэтакага дэмакратызму павінен ісьці Беларускі народ.

## Што дала ўкраінскаму грамадзянству г. зв. „нармалізацыя“?

Нармалізацыя — азначае тут імкненьне ўвесьці пэўную норму, пэўнае правіла ў польска-ўкраінскія адносіны. Трэба сказаць праўду, што гэтыя адносіны на працягу гісторыі бадай ніколі ня былі добрымі. Паміж польскім і ўкраінскім народамі даходзіла часта да крывавага змаганьня. Даволі ўспомніць часы Хмельніцкага (XVII ст.) і нядаўныя змаганьні за Львоў (1918-19 г.), каб вырабіць сабе паняцьце аб напружаннасьці адносін паміж двама народамі! Апынуўшыся ў граніцах Польшчы, украінцы праводзілі (ў Усх. Галіччыне) байкот польскай дзяржаўнасьці, устрымоўваючыся ад выбараў у сойм і сэнат (1922 г.), маючы надзею на ўвядзеньне абяцанай Ан-

тантай аўтаноміі. Аднак пасьля стабілізацыі граніц і сучаснага палажэньня ўкраінскае грамадзянства пачало паддаваць рэвізіі сваё дагэтуляшняе становішча, выславам чаго быў удзел у выбарах ў сойм і сэнат у 1928 г. *усяго* ўкр. грамадзянства. Некалькі гадоў потым (у 1934 г.) *часьць* ўкр. грамадзянства, згуртаванага ў партыі УНДО, імкнецца *ўнармаваць* ненармальныя дагэтуль польска-ўкраінскія адносіны; праект гэты спатыкаецца з такім самым імкненьнем часьці польскага грамадзянства (санацыі) і ўраду (мін. Косьцялкоўскі) і такім чынам у 1935 г. наступае нармалізацыйны пакт паміж польс. урадам і УНДО.

Украінскія дзеячы спадзяваліся, што з заключэньнем пакту наступіць радыкальная зьмена польс. нац. палітыкі, якая дасьць украінс. народу ў Польшчы поўную магчымасьць культурна-нацыянальнага і гаспадарчага разьвіцьця і будовы на ўкр. землях пад Польшчай украінскага „Піэмонту“, які з часам пашырыць свае ўплывы на ўсход, на укр. землі, якія знаходзяцца пад уладай Саветаў... Польскія-ж дзеячы з-пад знаку санацыі спадзяваліся, што нармалізацыйны пакт давядзе да ўзмацненьня польскай дзяржаўнасьці ўнутры і заграніцай, прытупіць вастрыё польска-ўкр. адносін, зблізіць украінцаў з палякамі і ў будучыне дасьць апору дзеля рэалізацыі далейшых плянаў польскай палітыкі на Усходзе...

Украінскія палітыкі хацелі захаваць тое, што ёсьць, асабліва свае гаспадарчыя здабыткі ў Польшчы і сягаць па новыя, а польскія — умацаваць польскую дзяржаўнасьць у ўкр. народзе. Як з аднаго боку так з другога на пачатку панавала пракананьне, што паміж гэтымі імкненьнямі двух народаў няма большых супярэчнасьцяў, а калі яны і знойдуцца, дык іх можна будзе вырашыць мірным спосабам. Аднак скора аказалася, што супярэчнасьці настолькі вялікія, што згоднае вырашэньне іх немагчыма. Бо тое, што укр. дзеячы ўважалі за канечны варунак угоды (школа, поўны самаўрад, удзел ўкраінцаў у адміністрацыі і г. д.), польскія дзеячы ўважалі за паменшэньне польск. дзяржаўнасьці і польскіх уплываў (stanu posiadania). Урэшце такі круты паварот, ад байкоту польскай дзяржаўнасьці да супрацоўніцтва з ёю, быў незразумелы для большасьці ўкр. грамадзянства і на такі крок яно было псыхічна непадгатавана. Таксама непадгатаваным аказалася і польскае грамадзянства, якое кожную сапраўдную ці ўмроеную ўступку на карысьць украінцаў называла „zaprzepaszczeniem polskiego stanu posiadania na Wschodzie“. Дзеля гэтых прычын „нармалізацыя“ пачала перажываць крызыс зараз на пачатку свайго існаваньня, а „Діло“, якое пачаткова гадзілася на „нармалізацыю“, ужо 5. I. 36 г. у артыкуле „На фронце бяз зьмен“ пісала аб патрэбе санацыі і псыхічнага адпружаньня на польскім баку фронту, бо пакульшто іх яшчэ няма і дзеля гэтага палажэньне на польска-украінскім фронце бяз зьмен.

У апошнім часе „Діло“ зьмяніла зусім сваё становішча і нават адкрыла адумысловую анкету ў справе нармалізацыі, даючы голас усім, хочучым выказацца ў гэтай справе. I характэрная рэч: усе галасы з розных укр. кругоў, нават з тых, якія у сваім часе пазытыўна аднесьліся да нармалізацыі, цяпер глядзяць нэгатыўна, заяўляючы, што сталася гэта з віны польскай стараны. „Діло“ яшчэ ў верасьні 1936 г. пісала, што з украінскага боку зроблена ўсё дзеля нармалізацыі ўкраінска — польскіх адносін, і так: выбарчы кампраміс, заклік да галасаваньня на супольныя сьпіскі, дэклярацыя на загранічным грунце аб спробе мірнага палагоджаньня спорных спраў, выражэньне даверу да прэзыдыюму рады міністраў, дэклярацыя аб патрэбе сільнай супольнай арміі — як супольнай вартасьці ўсіх грамадзян, галасаваньні за поўнамоцтвы для ўраду, галасаваньне за буджэт, урэшце — дэклярацыя ў справе падтрыманьня ФОН-у („Funduszu Obrony Narodowej“). Як бачым, акцыя ў кірунку нармалізацыі з боку ўкраінцаў (УНДО) пасунулася вельмі далёка. Ужо, здаецца, далей некуды ісьці.

А з боку польскага?

Аб уступках з боку польскага гаворыць „Biuletyn polsko-ukraiński“ з 6.IX.36 г., у каторым між іншым пішацца, што ўкраінская старана здабыла ўжо рад канкрэтных карысьцяў. Хопіць толькі паказаць на павялічэньне актыўнасьці ўкраінскіх гаспадарчых, культурна-прасьветных, грамадзкіх і іншых арганізацыяў, на пабольшаньне актыўнасьці ўкраінскага грамадзянства, што выявілася ў масавым арганізаваньні рознаякіх сьвяткаваньняў, абходаў і г. д. Значыць, украінцы здабылі толькі ажыўленьне дзейнасьці сваіх арганізацыяў і магчымасьці наладжваньня рознаякіх сьвяткаваньняў і абходаў! Паводле ўкр. прэсы гэтага мала і затым пасыпаліся крытычныя ўвагі ўкр. палітыкаў на ўсю гэтую імпрэзу, якая завецца нармалізацыяй.

Пададзём некаторыя з іх.

Першнаперш голас дра Дм. Левіцкага, б. старшыні УНДО і Украін. Парлям. Рэпрэзэнтацыі. Др. Левіцкі кажа, што УПР, выступаючы з ініцыятывай „нармалізацыі“, спадзявалася, што польскі ўрад пры помачы польскага грамадзянства дасьць украінскаму легальнаму сьвету, як роўнарадным грамадзянам Польскай дзяржавы, магчымасьць поўнага палітычнага, культурнага і гаспадарчага разьвіцьця; што украінцы разам з палякамі пойдуць у будучыне вызваляць Кіеў ад супольнага ворага — ад бальшавікоў, дзеля гэтага патрэбна сільная польская армія і патрэбны завязі ўкраінскага проціўсавецкага войска. А польская старана думала, што нармалізацыя ёсьць на тое, каб украінцы здушылі ў сябе ўласнымі рукамі ўсе нелегальныя проціўпольскія выступленьні; каб укр. павадыры спынілі нават легальную барацьбу ўкр. народу за ягоны правы; каб адказаліся ад усіх захадаў дзеля вызвольнага змаганьня на загранічным грунце. Дзеля інакшага разуменьня „нармалізацыі“ дайшло да канфліктаў — кажа др Левіцкі — і цяпер (ліпень г.г.) ад сапраўднай нармалізацыі далей, чым гэта было на вясну 1935 г. (Діло № 150 г. г.)

Укр. духавенства таксама нэгатыўна ацаніла нармалізацыю. I так о. Онышкевіч кажа, што палякі ня ўмелі доўга ісьці распачатаю дарогаю, як гэта часта бывала ў гісторыі Польшчы. Перамог у палякоў пагляд, што як украінцы ўзмацуюцца, то пойдуць проціў Польшчы. А некаторыя думаюць, што украінцаў можна трактаваць „рэгіянальна“, як гэта робіцца на Валыні, Гуцульшчыне, Лэмкаўшчыне, Падлясьсі і Палесьсі. Другі прадстаўнік укр. духавенства, о. Татомыр, кажа, што „нармалізацыйная“ тактыка, ведзеная паліт. кіраўніцтвам у бесканечнасьць, зрадзіла пасярод грамадзянства агарчэньне да кіраўніцтва і выклікала зьнеахвочаньне ў арганізаваным жыцьці. „Калі ўжо нічога не здабыць, то прынамсі зьберагчы чэсьць нацыі, яе годнасьць“ — кажа о. Татомыр.

Далей укр. работнік, Галібэй, сьцьвярджае, што „перад нармалізацыяй было шмат болей нашых людзей пры будовах, чыгунках, варштатах. Нармалізацыя зьвярнула большую ўвагу працадаўцаў на ўкраінцаў, але не на тое, каб ім болей давяраць і даваць працу, але каб іх аддаліць з працы! Прыгэтым Галібэй падае тайны цыркуляр львоўскай чыгуначнай Дырэкцыі аб непрыйманьні на службу ўкраінцаў, што было нават прадметам інтэрпэляцыі ў Сойме.

Б. пасол О. Яворськый кажа: „У сапраўднасьці ніякія зьмены ў польскай палітыцы адносна нас не наступілі, усё асталося пастараму і гэта пачало выклікаць расчараваньне і нездаваленьне мас, тым болей, што адміністрацыя пачала мясцамі ўводзіць большыя агранічэньні і часьцейшыя забароны чым раней“. На думку Яворськага нармалізацыя прынясла карысьць толькі для Польшчы, бо ўзмацава-

# Лік беларусаў у Польшчы.

Паводле агульнага перапісу насельніцтва з 1921 г. польская афіцыяльная статыстыка падавала лік беларусаў у Польшчы на 1 мільён 100 тысяч. Пасьля таго, як вярнуліся на бацькаўшчыну „бежанцы“ і ўлічваючы натуральны прырост, „Sprawy Narodowościowe“ (орган польскай меншасьцёвай палітыкі) ў артыкуле „Лік і разьмяшчэньне беларусаў у Польшчы“ (№ 3-4 з 1928 г.) падалі лік беларусаў у Польшчы на 1,590,000 душ. Гэтакі лік меў быць на дзень 1. I. 1928 г. Гэтакая лічба беларусаў у польскіх неафіцыяльных кругох была агульна прынята аж да наступнага перапісу з 1931 г., пасьля якога тыяж „Sprawy Nar.“ падавалі лік беларусаў пачаткова на 1,520,000, а потым роўна 1,600,000. Знаючы тэндэнцыі некаторых перапішчыкаў, якім кожны не паляк мусіў моцна цьвярдзіць аб сваей народнасьці, можна сказаць, што такая лічба сьведчыла аб існаваньні паўтарамільённай *сьведамай* беларускай масы, якая *дамагалася*, каб яе запісалі беларусамі.

Зразумелая рэч, што беларусы адносіліся да польскай статыстыкі з недаверам, цьвердзячы, што сапраўдны лік беларусаў у Польшчы куды большы, што гэныя паўтара мільёна яшчэ ня вычэрпываюць усяе *этнографічнае* беларускае масы. Але праўду кажучы, ня было яшчэ з беларускага боку працы, якая-б выказвала хоць-бы прыбліжаную лічбу гэтай масы. Гаварылася аб паўтраці да трох мільёнаў беларусаў у Польшчы, але гэты лік быў сумарычны, не даючы дакладнейшага малюнку ані расьсяленьня беларусаў, ані іх ліку.

Да напісаньня гэтага артыкулу прычыніліся тыя-ж „Sprawy Nar.“, якія ў 1-2 нумары сёлета падалі ўсьлед за афіцыяльнай статыстыкай паводле апошняга перапісу з 1931 г. лік беларусаў на 987,952 душы, а дадаючы натуральны прырост, „Spr. Nar.“ кажуць, што лік беларусаў на 30. VI. 1937 ня многа перайшоў за мільён. Значыць, паводле польскай статыстыкі лік беларусаў паменеў на 600 тысяч, чаго быць не магло, бо ўсім ведама, што беларускай этнаграфічнай масы прыбыло і да гэтага сьведамасьць у гэтай масе пашырылася. З гэтага відаць, што ў польскай статыстыцы ня ўсё ў парадку.

Прабуючы даць верны абраз бел. насельніцтва ў Польшчы, мы адчуваем усе зьвязаныя з такой пробай труднасьці. Прадусім ня маем магчымасьці зрабіць свайго перапісу, так як робяць польскія дзейнікі, а ведама, што лік таго ці іншага насельніцтва залежыць часта ад таго, *хто* робіць перапіс. Другой труднасьцяй зьяўляецца яшчэ нястача нац. ўсьведамленьня ў шырокіх кругох нашага жыхарства, якое найчасьцей азначае сябе паводле веры, прыгэтым зусім памылкова („польская“ і „руская“ вера), а трэцяй — нястача выразнай мяжы паміж беларусамі і некаторымі суседнімі народнасьцямі, асабліва ўкраінцамі на Палесьсі. Здаючы справу з гэтых труднасьцяў, мы падходзім да статыстычных досьледаў вельмі асьцярожна, з аднаго боку не догматызуючы іх, а з другога — стараючыся аднак абапёрці нашу статыстыку на фактычных даных. Помачай для нас будзе таяж польская статыстыка, а над усё наша *дакладная знаёмасьць* абшараў, заселеных беларусамі. Абшары гэтыя мы знаем ня толькі з кніжак, але і з жыцьцёвага досьледу, бо мы выйшлі з гэтага краю і зьведалі яго ўздоўж і папярок. Падставай для нашай статыстыкі ня будзе народная сьведамасьць, але этнографічная маса. Польская статыстыка брала за падставу нац. ўсьведамленьне і пісала беларусамі тых, хто аб гэтым заяўляў, а нават гэтага жадаў, а мы будзем пісаць тых, хто дома ў сябе гаворыць пабеларуску, хто з свайго жыцьця, з сваіх звычаёў і абычаёў належыць да *цела* беларускага народу, іншымі славамі, будзем рабіць статыстычныя падлічэньні *беларускай этнографічнай масы.* Паступаць гэтак маем тыя прычыны, што працэс усьведамленьня бел. мас яшчэ ня скончыўся, а этнографічная маса, хоць-бы і нясьведамая, ёсьць заўсёды *in potentia* матар'ялам беларускім, да якога з часам можа прыйсьці ўсьведамленьне і ён станецца беларускім фармальна, ня толькі целам, але і душою. Вялікая шкада, што ня маем яшчэ статыстычных даных паводле гмін, гэта дало-б нам магчымасьць зрабіць болей дакладны падрахунак бел. насельніцтва ў Польшчы. Да гэтакага падрахунку вернемся тады, калі пакажуцца ў сьвет болей дакладныя стат. аблічэньні, а цяпер будзем падаваць іх *сумарычна*, паводле паветаў.

### Віленскае ваяводзтва.

*Браслаўскі пав.* займае прастору 4.217 кв. км., на адзін кв. кілёмэтр выпадае 34 чалавекі. Насельніцтва 143 тыс. (падаём у круглых лічбах), каталікоў 89 тыс., праваслаўных 30 тыс., жыдоў блізу 8 тыс., іншых, прадусім старавераў 16 тыс. Паводле бацькаўскай мовы: польская — 94 тысячы, беларус. 23 тыс., расійская 14 з пал. тыс., літоўская 3 з пал. тыс., жыд. 7 тыс., іншых—да 1 тысячы. Глянуўшы на гэтыя лічбы, адразу кідаецца ў вочы вялізарная лічба гаворачых папольску ў Браслаўшчыне, тады калі ўсім ведама, што ў гэтым павеце агульна-ўжыванай мовай ёсьць мова беларуская, а польская ў штодзенным жыцьці трапляецца вельмі рэдка. Прыгэтым трэба сьцвердзіць, што ў зах. частцы павету (на захад ад Відзаў і ў ваколіцы Дукшт) гавораць палітоўску. Паводле нашых аблічэньняў гаворачых пабеларуску ў Брасл. пав. ёсьць найменш 100 тысяч, прыгэтым засьцерагаемся, што можа быць болей.

*Дзісьненскі пав.* мае прастору 3,968 кв. км., насельніцтва 160 тысяч, на 1 кв. км. 40 чалавек, каталікоў 57 тыс., правасл. 88 тыс., жыдоў 12 тыс., іншых 3 тыс. Польская мова 62 тыс., беларус. 80 тыс., рас. 5 тыс., жыд. 12 тыс., інш. да 1 тыс. Як бачым, лік ужываючых польскай мовы паводле гэтай статыстыкі большы, чым лік каталікоў, а лік гаворачых пабеларуску меншы, чым лік праваслаўных. Значыць і тут афіц. статыстыка кульгае. Дзісеншчына належыць да найболей беларускіх паветаў, там і праваслаўныя і каталікі гавораць пабеларуску, старавераў зусім мала, а калі адлічым іх, жыдоў і гаворачых папольску, то астанецца добрых 135 тысяч, гаворачых пабеларуску.

*Маладэчанскі* пав. мае прастору 1,898 кв. км. насельніцтва 91 тыс., на 1 кв. км. 48 чал., каталікі 21 тыс., правасл. 54 тыс., жыды 6 тысяч., польская мова 36 тыс., беларус. 49 тыс., жыд. 6 тыс., рас. 700 чалавек. Таксама адзін з найболей беларускіх паветаў, паводле нашага абрахунку ёсьць там каля 80 тысяч беларусаў.

*Ашмянскі* пав. прастору 2,362 кв. км., насельніцтва 104 тысячы,

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### У справе БІГ і К.

Пасьля зачыненьня віл. ваяводай у студні г.г. Бел. Інстытуту Г і Культуры, цэнтр. Урад гэтай арганізацыі падаў рэкурс да Міністра Унутр. Спраў. У верасьні прышла дэцызыя Міністэрства з дн. 27.VIII. г.г. якая пацьвярдзіла зачыненьне БІГ і К, апіраючыся на тых самых падставах, што і пастанова ваяводы. Прыгэтым Мін. яшчэ раз адзначае, што БІГ і К. быў зачынены за праводжаньне дзейнасьці, пагражаючай бясьпечнасьці, супакою і публічнаму парадку, што дало ўладзе падставу да зачыненьня т-ва. Пастанова М-ва ёсьць аканчальнай у адміністрацыйным бегу інстанцыяў.

### Каля бел. школьніцтва.

З пачаткам новага школьнага году выявіўся вялікі наплыў кандыдатаў у Віл. Бел. Гімназію. Вясною здало экзамін у першую клясу 30 вучняў і вучаніц; асталося яшчэ 10 месц, на якія ў верасьні зьявілася аж 50 кандыдатаў. Дзеля гэтага былі роблены ў віл. школьн. Куратоdoі, захады, каб адчыніць роўналеглую першую клясу, але Куратория дзеля няведамых прычын не згадзілася. У рэзультаце некулькі дзесяткаў вучняў мусела вярнуцца да хаты. Прыгэтым трэба адзначыць, што памешканьне, куды цяпер перанесена бел. гімназія, цеснае і нявыгаднае.

Не атрымана таксама дазволу на адчыненьне бел. ліцэю. Бел. грамадзянства адчула гэта як вялікую і незаслужаную крыўду, тымболей што атрымалі ліцэі іншыя нац. меншасьці, як напр. расейцы. У справе ліцэю выступіў перад уладамі з пэтыцыяй Бел. Нац. Камітэт, але ўважаем, што гэтага мала. У справе бел. школьніцтва (ня толькі ліцэю) павінна выступіць усё бел. грамадзянства, без партыйнай рожніцы, з тым, каб бел. школу ў Польшчы ўсёжтакі здабыць. Гэта павінна быць галоўнай мэтай беларусаў на бліжэйшы час. Пасьля ўсіх няўдач, якія нас спатыкалі, мы не павінны здавацца і падаць духам, але яшчэ з большай энэргіяй ўзяцца за здабываньня сваей школы, якую нам гварантуюць *польскія законы*. Апроч гэтага мы маем *прыроднае права* мець сваю школу, так як яго маюць усе народы і гэтага права не зрачэмся ніколі.

---

ла становішча Польшчы як унутры так і заграніцай, украінская справа ў Польшчы зьнікла на якісь час з міжнароднай арэны, а заграніцаю могуць думаць, што перастала нават існаваць, як польская нутраная справа. Прычынілася да гэтага ведамая заява прадстаўніка УНДО на Кангрэсе Нац. меншасьцяў, аслабленьне зносін з заграніцаю і зьмена апазыцыйнай тактыкі на про-урадавую.

Можна было-б яшчэ болей прыточваць крытычныя галасы ўкраін. дзеячоў на „нармалізацыйную" палітыку, але і гэтых хваціць, каб зразумець поўнае яе банкруцтва. Характэрная рэч, што процiў нармалізацыі выступаюць вельмі востра нават тыя дзеячы, якія ў 1935 г. спагадалі ей! Дык на пытаньне, што дала ўкр. грамадзянству г. зв. нармалізацыя, трэба адказаць, што *нічога*, апроч расчараваньня.

Для беларускага грамадзянства з гэтага навука, што польскае грам. яшчэ не дайшло да зразуменьня сваіх адносін як да ўкраінскага так і беларускага народаў. Дзеля гэтага ўважаем, што ўсе спробы гутаркі некаторых бел. дзеячоў ці то з урадам, ці то з польскай „дэмакрацыяй", ці то з „лявіцай" не дадуць для бел. народу нічога карыснага. *С. К—і.*

### Лекцыя ў Бел. Нав. Тав.

26 IX. г. г. мгр. М. Шкялёнак прачытаў на паседжаньні гістарычнай сэкцыі Бел. Нав. Т-ва ў Вільні лекцыю на тэму: „Падзел гісторыі Беларусі на пэрыяды". Галоўныя тэзы лекцыі былі наступныя:

Дасюлешні падзел гісторыі Беларусі на чатыры пэрыяды: полацкі, літоўска-беларускі, польскі і вялікарускі ёсьць няправільным і стварае памылковы пагляд на сутнасьць гісторыі Беларусі. Асноўда падзелу гісторыі Беларусі на пэрыяды трэба шукаць у формах разьвіцьця беларускай гаспадарсьцьвенасьці. адпаведна з разьвіцьцём каторай разьвіваліся розныя галіны жыцьця белар. народу. На гэтай аснове гісторыя Беларусі дзялілася-б на наступныя тры пэрыяды: а) *асобных гаспадарстваў* ад IX да паловы XIII ст., b) *суцэльнай гаспадарсьцьвенасьці* ад паловы XIII да паловы XVII ст. і c) *заняпаду беларускай гаспадарсьцьвенасьці* — ад паловы XVII ст. да апошняга часу. Першыя два пэрыяды абыймаюць Беларусь незалежную, а розьніца між імі палягае на тым, што ў першым пэрыядзе Беларусь складалася з асобных незалежных гаспадарстваў (Полаччына, Смаленшчына, Турава-Піншчына), меўшых свае сацыяльныя і культурныя асаблівасьці; ў другім-жа пэрыядзе Беларусь зьяўляецца суцэльным гаспадарствам. Кожны з гэтых пэрыядаў можа быць падзелены на карацейшыя поры. Гэтак у апошнім пэрыядзе адрозьніваецца пара адраджэньня бел. пісьменнасьці і палітычнай думкі, а дата 25. III. 1918 г. пачынае пару адраджэньня і беларускай незалежніцкай думкі.

Пасьля рэфэрату адбылася дыскусія, ў якой выявілася, што прамоўцы пагаджаюцца з гэткім падходам да разгляданай квэстыі.

### Наш адказ „Шляху Моладзі".

„Шлях Моладзі (з 15.IX. г.г.) пачаў з намі палеміку на тэму адносін да ажыўленьня дзейнасьці „Зьвязу" а такжа на тэму спробаў польска-беларускага зьліжэньня. Трэба адзначыць, што палеміка „Ш. М." вострая, гарачая і носіць болей асабіста-партыйны характар, чым прынцыповы. Прыгэтым „Ш. М." не дае адказу на тыя пытаньні, якія мы паставілі ў папярэднім нумары „Б. Фр.", а найгорай, што варочаецца да ўжо, здавалася, забытых мэтадаў абкідаць свайго праціўніка такімі славамі, як данос, правакацыя, бязглузьдзе ці безгалоў'е, ужываючы прыгэтым тону і формаў, даўно неспатыканых ў бел. прэсе. Ужо сам загаловак палемічнага артыкулу: „Правакацыя ці бязглузьдзе" сьведчыць аб гарачасьці рэдакцыі „Шл. Моладзі". Уважаем, што прычын гэтай гарачасьці ня можна шукаць у маладым веку рэдактараў (рэд. калегія „Ш. М" — гэта ўжо бацькі дзяцей і з маладога веку ўжо выйшлі) — значыць, былі іншыя прычыны гэтай гарачкі. Заўсёды так бывае, што той, у каго няма моцных і рачовых аргумантаў, хоча сваей гарачасьцю заступіць нястачу довадаў і прыгэтым злуецца, ужываючы „моцных" слоў. Мы гэткай дарогай ня пойдзем і адкажам рачова і спакойна.

Першнаперш справа „Зьвязу" і наагул бел. арганізаванага жыцьця. Як ведама, дзьве найбольшыя бел. арганізацыі: БІГіК і ТБШ зачынены адмін. уладамі. Пасьля іх асталося пустое месца, якое трэба запоўніць. Новай арганізацыі пры цяперашніх варунках залажыць бадай што ня ўдасца, значыць, трэба ажывіць такую, якая ўжо існуе. Гэткай арганізацыяй ёсьць якраз „Беларускі Гаспадарскі Зьвяз", статут якога ёсьць бадай аднолькавы з БІГ і К. „Зьвяз" у сваіх мэтах адказвае сяньняшнім імкненьням бел. народу (разьвіцьцё эканамічнага і культурнага жыцьця), дык што стаіць на перашкодзе, каб яго ажыцьцёвіць і пачаць арганізаваную працу? Кожны ведае, што пасьля закрыцьця нашых культурна-прасьветных арганізацыяў сядзець злажыўшы рукі ня можна, гэта выяўлялаб

---

на 1 кв. км. 43 чал., каталікоў 81 тыс., правасл. 15 тыс., жыдоў 7 тыс., іншых 1 тыс.; польская мова 85 тыс., беларус. 10 тыс., жыд. 7 тыс., літоўс. 1,560 чал., рас. 800 чал., рэшта іншыя. Гэты павет у большасьці каталіцкі, дык польская статыстыка залічвае яго да паветаў польскіх. Мы аднак, знаючы дакладна насельніцтва гэтага павету, сьцьвярджаем, што яно гаворыць пабеларуску, і то ня толькі праваслаўныя, але і каталікі. Каталікі толькі гавораць пацеры папольску, але гэта яшчэ не дае падставы залічыць іх да польскай нацыі, так як ня можна залічыць каталіцкіх ксяндзоў да лацінскай нацыі на тэй падставе, што адгаворваюць лацінскія пацеры. Дзеля гэтага сьцьверджаем, што Ашмянскі пав. ня ёсьць этнаграфічна польскім, а беларускім і лік беларусаў у ім перавышае 85 тысяч.

*Пастаўскі* пав. прастору 3,050 кв. км., насельніцтва 100 тысяч, на 1 кв. км. 33 чал., каталікоў 51 тыс., правасл. 44, жыд. 3, іншых 2 тысячы; польс. мова 48 тыс., беларус. 48 тыс., жыд. 3, рас. 1 тыс. Паводле нашага аблічэньня ў гэтым павеце ёсьць беларусаў каля 90 тысяч.

*Сьвянцянскі* пав. прастору 4,017 кв. км., насельніцтва 136 тысяч, на 1 кв. км. 34 чал.; каталікоў 117 тыс., правасл. 2 тыс., стараавераў каля 10 тыс., жыд. 7 тысяч; польская мова 68 тыс., беларус. 8 тыс. рас. 9 тыс., літоўс. 43 тыс., жыд. 7 тысяч, рэшта іншыя. У гэтым павеце ў зах. частках жыве многа літоўцаў; ці лік 43 тысячы адказвае сапраўднасьці—мы ня ведаем. Літ. статыстыкі наракаюць на памылковасьць і тэндэнцыю польскіх статыстыкаў. Для нас, беларусаў, пацяшаючай праявай ёсьць факт запісаньня болей 6 тысяч каталікоў беларусамі! Гэта відаць з таго, што праваслаўных ёсьць 2 тысячы, трэба дапусьціць, што пасярод іх ёсьць і расейцы, а беларусаў 8 тысяч, значыць запісалася беларусамі болей 6 тысяч беларусаў-каталікоў. Гэты факт сьведчыць аб пашырэньні нац. бел. усьведамленьня і пасярод бел. каталіцкай масы. Паводле нашага аблічэньня беларусаў у Сьвянц. пав. ёсьць каля 70 тысяч.

*Вялейскі* пав. прастору 3,427 кв. км., насельніцтва 131 тыс., на 1 кв. км. 38 чал.; каталікоў 53 тыс., правасл. 71 тыс. жыд. 6 тыс., іншых 1 тыс.; польская мова 59 тыс., беларус. 64 тыс., рас. 1 тыс., жыд. 6 тысяч. Кідаецца ў вочы ў гэтай статыстыцы, як і ўсюды, розьніца паміж лікам каталікаў і лікам гаворачых папольску, лікам праваслаўных і лікам беларусаў. З гэтай розьніцы відаць, што ня толькі ўсе каталікі залічаны да гаворачых папольску, але і некалькі тысяч праваслаўных. Паводле нашых падлічэньняў у Вялейскім павеце ёсьць каля 120 тыс. беларусаў.

*Віленска-Троцкі* пав. мае прастору 5,969 кв. км., насельніцтва 214 тыс., на 1 кв. км. 36 чал.; каталікоў 201 тыс., правасл. 3 тыс., жыд. 7 тыс., іншых 3 тыс.; польская мова 180 тыс., беларус. 5 з пал. тыс., рас. блізу 4 тыс., літоўс. 17 тыс., рэшта жыды і інш. Трэба прызнаць, што ў гэтым павеце азначыць правільна лік беларусаў вельмі трудна, бо тут зыходзяцца ўплывы яшчэ двух народаў: літоўскага і польскага. Агулам бяручы, на ўсход і поўдзень ад Вільні насельніцтва гаворыць пабеларуску, а на захад і поўнач — нейкай беларуска-літоўска-польскай гутаркай, якой праз радіё гаворыць цётка Альбінова, а ў „Слове" піша Вінцук Маркотны. Куды залічыць гэту этнографічную мяшанку, мы і самі ня ведаем. Бясспрэчна, яна ёсьць паходжаньня літоўска-беларускага, аб чым сьведчаць прозьвішчы людзей і назовы мясцовасьцяў. Старэйшае пакаленьне яшчэ гаворыць палітоўску або пабеларуску, а маладзейшае ў ваколіцах Мэйшаголы, Падбярэзьзя ці Нямэнчына хватаецца ўжо за польскую мову, маючую аднак шмат слоў і граматычных формаў беларускіх або літоўскіх. Калі ня будзем лічыць гэтай мяшанкі да беларус. этнаграфічнай масы (хоць праф. Карскі яе залічвае), калі адыймем літоўскае насельніцтва, то на долю беларускую павінна астацца ня менш 135 тысяч.

Горад *Вільня* меў у 1931 г. 195 тысяч, з чаго каталікоў 126 тыс., правасл. 9 тыс., жыд. 55 тыс., рэшта іншыя; польская мова 128,628, расейс. 7,372, беларус. 1,737; літоўс. 1,579; рэшта жыды і іншыя. Як бачым, сьведамых беларусаў у Вільні мала, але мыляўся-б той, хто-б думаў, што ў Вільні толькі 1,737 гаворачых пабеларуску. Есьць шмат бел. работніцтва. якое ўжывае бел. мовы, ёсьць і бел. інтэлігенцыя, якая ня чураецца роднае мовы. А што датыча „простага" віленскага народу, дык ён у большасьці ўжывае бел. мовы. Каб праканацца ў гэтым, даволі выйсьці раненька на вуліцы Вільні. Тады работнікі, якія ідуць да працы, вазакі (дранжкары), якія едуць на свае стойлы, дворнікі, якія замятаюць вуліцу, гавораць у большасьці пабеларуску, а панаваньне польскай мовы заўважваецца ад гадз. 7-ай, калі пачынае ісьці ў школы моладзь і да сваіх прац урадаўцы. Тады польшчына заглушае беларушчыну, бо і тыя, што гаварылі пабеларуску, пачынаюць цяпер гаварыць папольску. Бяручы ўсё гэта пад увагу мы не памылімся, калі скажам, што ў Вільні ёсьць каля 30 тысяч (а можа і болей) бел. этнаграфічнай масы.

Падсумоўваючы такім чынам усё бел. насельніцтва Віленшчыны, мы атрымаем **845 тысяч**. Для польскіх статыстыкаў такі лік пакажацца моцна перавялічаным, але калі возьмем пад увагу сапраўдны этнаграфічны воблік Віленшчыны, дык у гэтым нашым падрахунку ня знойдзем нічога дзіўнага. Пры абрахунку паводле гмін рэзультат быў-бы для беларусаў магчыма яшчэ карысьнейшы. Есьць гміны, ў каторых толькі пару дзесяткаў асоб гаворыць папольску. Паводле некаторых польскіх статыстыкаў Віленшчына — гэта край чыста польскі, аднак калі прыгледзецца да яе бліжэй, акажацца, што ён этнаграфічна беларускі. Гэта сьцьвярджаюць нават польскія дасьледчыкі, якія не займаюцца фаховай статыстыкай. І так Бр. Овчыннік у „Дзенніку Поранным", органе ZNP (з 27. IX. г. г.) так піша: „ёсьць цэлыя абшары (połacie) паветаў на Віленшчыне, дзе на прасторы некулькіх дзесяткаў кілёмэтраў ўздоўж і ўшыркі жывуць выключна нацыянальныя меншасьці, дзе няма зусім мясцовага каранного польскага элемэнту". Якія гэта нацыянальныя меншасьці, аўтар ня кажа, але з далейшых ягоных слоў відаць, што гэта беларусы. Гэтае прызнаньне вельмі цэннае: яно пацьвярджае нашу тэзу аб большасьці няпольскага, ў даным выпадку беларускага, насельніцтва на Віленшчыне. *В. Г.*

*(Далей будзе).*

# На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц верасень*).

### Каля Гішпаніі.

У самой Гішпаніі нічога важнейшага ў верасьні не сталася. Паўстанцы, пасьля заняцьця Баскіі, займаюць апошнюю на паўночным фронце правінцыю Астурыю, дзе знаходзіцца гішп. цяжкі промысел і многія капальні. Астурыйскія работнікі, моцна бароначыся, адступаюць ў кірунку г. Гіхон (Gijon), які ёсьць мэтай паўстанцаў. З заняцьцем гэтага гораду паўночны фронт будзе зьліквідаваны і паўстанцы маюць намер прыступіць да рашучага наступленьня на мадрыцкім фронце, але там справа пойдзе цяжэй, бо сілы абодвух праціўнікаў бадай аднолькавы. Усё залежыць ад таго, на чый бок прыбудзе болей „ахвотнікаў". А прыбываць яны могуць цяпер зусім свабодна, бо кантроля ўжо бадай цалком зьнесена, ня толькі на моры, але і на сушы (з боку Францыі). Ад падгатоўкі і помачы залежыць перамога адной ці другой стараны. Паміма гэтага Англія і Францыя выступілі да абедзьвух ваюючых старон з прапазыцыяй спыненьня вайны і пачацьця мірных перагавораў. Які рэзультат гэтай прапазыцыі—яшчэ няведама. Усё залежыць ад таго, якое становішча займуць заінтарасаваныя ў Гішпаніі дзяржавы, а перадусім Італія і Саветы.

Калі ў Гішпаніі застой, дык *каля Гішпаніі* падзеі разьвіваліся. Вялікае напружаньне ў дыпляматыі выклікала тапленьне на Міжземным моры нейкімі падводнымі лодкамі караблёў, вязучых у чырвоную Гішпанію прадукты і ваенныя прылады. Паміж іншымі было затоплена некалькі савецкіх караблёў, што выклікала цэлую буру. Бура яшчэ ўзмаглася, калі Саветы афіцыяльна абвінілі ў гэтым Італію. Італія на знак пратэсту не паслала сваіх прадстаўнікоў у *Ніон* (Швайцарыя), дзе Англія і Францыя склікалі канфэрэнцыю, каб праціўдзеяць піратцтву на Міжземным моры. На гэтай канфэрэнцыі пастаноўлена тапіць усе спатканыя падводныя лодкі, якія будуць плысьці бяз дзяржаўнага знаку. Кантролю даручылі Англіі і Францыі, якія выслалі на Міжз. мора да 100 сваіх меншых і большых караблёў. Памагаць ім у кантролі будуць яшчэ аэрапляны. Гэтая рашучая пастанова спыніла піратцтва, але выклікала вялікае напружаньне адносін паміж Англіяй і Францыяй з аднаго боку, а Італіяй—з другога. Першым дзяржавам прызнана права кантраляваць усё Міжземнае мора, а Італіі толькі яе прыгранічныя воды. Італія пачулася абражанай і зразумела, што не яна ёсьць гаспадыняй на Міжз. моры (да чаго яна імкнецца), але хто іншы, затым пастанавіла навязаць яшчэ цясьнейшыя зносіны з Нямеччынай. Згэтуль паўстала патрэба адведзін Муссолінім Гітлера.

Дыпляматычны ход Італіі быў для яе карысны: на пярэдадні выезду Муссолініяга ў Нямеччыну, Англія і Францыя выслалі Італіі ноту, ў якой прызналі ёй роўныя правы ў кантролі на ўсім Міжз. моры! Гэтае прызнаньне трохі злагодзіла спор паміж Італіяй і Англіяй (ізноў пачалі гаварыць аб італьянска-англійскім збліжэньні), але адначасна паказала, што Англія за шляхі на Міжз. моры будзе змагацца да канца і Італіі ўступаць ня думае.

На пытаньне, чые гэта падводныя лодкі займаліся піратцтвам, адказаць трудна. Няведама нават, ці аб гэтым знаюць разьведкі вялікіх дзяржаў. Але работа зроблена: Англія мусела затрымаць на Міжз. моры караблі, якія хацела выслаць на Далёкі Усход.

### На Далёкім Усходзе.

Там завязваюцца вялікія вузлы, якія разьвязаць трудна будзе: іх трэба будзе расьсякаць мячом. Японія, не шкадуючы крыві і жалеза, ідзе да падпарадкаваньня сабе Кітаю, каб мець у ім саюзьніка на выпадак вайны з Саветамі. Тымчасам дзеецца якраз наадварот: Кітай уцякае ад Японіі і лучыцца з Саветамі! Знаючы японскую празорнасьць, якая не пачынае акцыі, пакуль не абрахуе ўсяго аж да найменшай драбніцы, дзівіцца трэба з гэткай тактыкі, якая аддае ў рукі Саветаў аграмадную краіну, поўную чалавечага матар'ялу і прыродных багацьцяў! Дзівіцца таксама трэба і з тактыкі Саветаў, якія высьцерагаюцца адкрытай вайны з Японіяй, хоць ведаюць, што яна нямінуча, а толькі цішком памагаюць Кітаю! Аднак у ўсім гэтым ёсьць нейкая глыбейшая прычына: відаць Японія зразумела, што мірным спосабам Кітаю не апануе і дзеля гэтага пачала страшную вайну на сушы, на моры і ў паветры, каб прымусіць Кітай да прыняцьця варункаў, аб каторых мы пісалі ў папярэднім нумары „Б. Фр.", а што датыча Саветаў, дык яны сядзяць ціха, бо баяцца ўдэру з Захаду... Яны ня ведаюць, як аднесуцца да іх вайны з Японіяй Нямеччына і Польшч. Такім парадкам Японія, заключыўшы саюз з некаторымі эўрапэйскімі дзяржавамі і зьвязаўшы Англію на Міжземным моры, можа правадзіць свае пляны ў Кітаі. Ніхто ей у гэтым цяпер не перашкодзіць, бо гэта выклікала-б сусьветны пажар, каторага кожны баіцца.

### Муссоліні у Нямеччыне.

Пры канцы верасьня Муссоліні адведаў Гітлера. Гэтым адведзінам прыдаюць вялікае значэньне, бо яны прыбліжаюць Італію і Нямеччыну ў іх імкненьнях. Прычынай адведзін было завастрэньне адносін паміж Італіяй і Англіяй, паміж якімі насьпявае канфлікт за Міжземнае мора. У гэтым канфлікце Італія шукае саюзьнікаў. У Эўропе такой саюзьніцай можа быць толькі Нямеччына, якая ў апошнія гады разбудавала сваю армію да небывалых разьмераў. Гэта сьцьвярдзіў сам Гітлер, які на партыйным зьезьдзе ў Нюрнбэргу заявіў, штоВэрсальскі трактат ужо не існуе, Нямеччына свабодна, а гваранцыяй гэтай свабоды ёсьць нямецкая армія..

Аб чым гаварылі два дыктатары, афіцыяльна няведама, бо аб гэтым ня было ніякага камунікату. Але трэба дапусьціць, што былі абгавораны ўсе важнейшыя справы сусьветнай палітыкі: Міжземнага мора, Гішпаніі, Далёкага Усходу а можа і Блізкага, якім інтарасуецца Нямеччына, а можа нават справа далучэньня Аўстрыі да Нямеччыны і г. д. Далейшыя падзеі пакажуць, як далёка зайшло ням-італь. паразумленьне, а цяпер трэба сьцьвердзіць, што ў усіх справах Ням. і Італія выступаюць салідарна, так як Англія і Францыя. У аднэй з сваіх прамоў у Нямеччыне Муссоліні заявіў, што Эўропа будзе фашыстоўскай...

### Францыя.

У гэтай краіне дзеюцца такія рэчы, аб якіх у іншых ня чуваць: там у белы дзень хватаюць рас. генэралаў, якія анынуліся на эміграцыі і вывозяць няведама куды. Некалькі гадоў таму вывезьлі ген. Кутепова, а нядаўна ген Мільлера, старшыню саюзу рас ваякаў на эміграцыі. Разам з ім згінуў бяз весьці ген. Скоблін, як кажуць, агент камінтэрну, якога падазраюць у вывязеньні Мільлера на савецкі карабель „Марыя Ульянова", які зараз пасьля гэтага адплыў з франц. порту Гавр у Ленінград. Жонка Скобліна арыштована і франц. паліцыя вядзе сьледзтва. Але ці яно што выкрые? Кутепаў згінуў бяз весьці, таксама і Мільлер. У апошніх днях разышліся весьці, што разам з Мільлерам вывезены і ген. Скоблін. Гэтыя весьці запуталі справу яшчэ болей. Кажуць, што ва ўсім дзеіць рука ГПУ.

Таксама вялікую сэнсацыю выклікала спроба кражы агентамі ген. Франко падводнай лодкі, належачай да паўстанцаў, якая стаяла ў франц. порце Брэст. Агенты тыя былі ўжо апанаваўшы лодку, і магчыма выплыліб на поўнае мора, каб ня стрэлы вартаўніка, якія ўстрывожылі франц. паліцыю. Пару агентаў злоўлена, а рэшта уцякла.

У Парыжы ўзарваны два вялікія будынкі, у якім мясьцілася цэнтраля франц. „Левіятану" (цяжкога промыслу). Пад звалінамі згінулі 2 паліцыянты. Хто ўзарваў—няведама.

Дзеля фінансавых труднасьцяў краю, пачаў ізноў падаць у цане франк.

### У Палестыне.

Пасьля правядзеньня падзелу Палестыны на дзьве часьці: арабскую і жыдоўскую, пачаліся выступленьні арабаў праціў Англіі. Было забіта некалькі англ. паліцыянтаў і нават камісара на Галілею. Тады Англія выдала загад арыштаваць усіх павадыроў арабскага руху ў Палестыне, разагнаць арабскі камітэт і іншыя арганізацыі і ўвесьці ў урадаваньне моцную руку. Гэта сьведчыць, што Англія ў сваей палітыцы хоча абапёрціся на жыдах, вылучаючы арабаў. З гэтага скарыстае Італія, каб падняць арабскі і наагул мусулманскі сьвет праціў Англіі.

---

нашую бязсілу. Наадварот, трэба ўзяцца да работы і паказаць, што мы, ня гледзячы на ўсё, жывём і працуем. А цяпер пытаньне, ці гэтакую ініцыятыву можна назваць даносам, правакацыяй, бязглузьдзем ці безгалоўем? Відаць, што і рэдактары „Ш. М." хацеліб нешта рабіць, бо ў жніўнёвым нумары свайго часапісу паведамлялі аб праекце закладзін новай арганізацыі моладзі. Мы гэту вестку перадрукавалі і ня пыталіся: „ці вам ведамы магчымасьці беларускае працы, ці не"? і не назвалі гэтага праекту рознымі няпрыстойнымі і абразьлівымі славамі. Мы аднесьліся да вашага праекту аб'ектыўна і рачова, уважаючы, што хто як хто, але моладзь не павінна падаць духам: яна павінна даваць добры прыклад ахвярнай працы. Дык напасьць „Ш. М." на нашу ініцыятыву выклікала на бел. грунце вялікае зьдзіўленьне.

Гэта адна справа, а цяпер другая.

У папярэднім н-ры „Б.Фр." мы падалі вестку, узятую з „Шл. М.", што ў гэтым годзе былі спробы з з боку віл. польскай дэмакрацыі, а між іншым з боку „Kurjera Powszechnego" ўвайсьці ў кантакт з беларусамі і працаваць дзеля дабра супольных польска-беларускіх адносін, але гэтую спробу нейкая таёмная рука заглушыла... Мы да гэтых спроб аднесьліся крытычна, заяўляючы, што ў польскім грамадзянстве няма пакуль што групы, з якой можна былоб гаварыць, а бачучы ў „Ш. М." жаль, што нейкая таёмная рука гэтыя спробы польска-бел. збліжэньня заглушыла, напомнілі, каб за гэтым збліжэньнем ня гнацца, бо „насілу міл ня будзеш" і „даганяючы не нацалуешся". На наш пагляд накідваючыся ў сучасных няроўных варунках польскаму грамадзянству з сваім збліжэньнем, беларусы праіграюць.

Але варочваючыся да гэнай „таёмнай рукі", якая перарвала спробы збліжэньня, трэба прызнаць, што мы ёю зацікавіліся, таксама як і ўсё бел. грамадзянства. І зацікавіліся мы не затым што баімся з боку „Ш. М." канкурэнцыі ў палянафільстве (канкураваць з „Ш. М." або з кім іншым у гэтым кірунку не маем намеру), але зацікавіліся дзеля самога *факту* спробаў польска-беларускага збліжэньня і дзеля тэй „*таёмнай рукі*" якая гэтае збліжэньне прарвала. З гэтых прычынаў выразілі пажаданьне, каб «Ш. М." аб усім ясьней сказаў, але „Ш. М." адмовіўся, паклікаючыся на цяперашнія варункі.

Мы ўсёжтакі гэтую „таёмную руку" хацеліб ведаць і падаць яе да ведама бел. грамадзянства. На наш пагляд, гэтай „рукой" не магліб быць камуністы, бо „Kur. Powsz." з камуністамі не зьвязаны. Дык хто-ж могбы быць? Наколькі мы ведаем „Kurjer Powszechny" збліжаны да ZNP (Związku Nauczycielstwa Polskiego) і ППС — дык ці не адтуль выйшаў загад парваць усякія гутаркі з беларусамі? Калі так, дык гэтым выяўляецца сапраўдны воблік як аднэй групы так і другой, якія зьяўляюцца прадстаўніцамі польскай дэмакрацыі і польскай левіцы і ў будучыне маюць быць галоўнымі стаўпамі „дэмакратычнага фронту" ў Польшчы. А калі ані ZNP, ані ППС дык *хто такі*? Можа сільныя гэтага сьвету? А калі так, то нашто скрываць? У тэй ці іншай форме, але гэта можна выказаць.

Гэтае пытаньне мы ставім яшчэ раз, дамагаючыся ад „Шляху Моладзі" сказаць усю праўду. Выяўленьне праўды выясьніць бел. народу тое палажэньне, ў якім ён знаходзіцца і разам з гэтым ададкрые яму вочы, хто ягоны прыяцель, а хто вораг. Спадзяёмся такжа, што „Шлях Мол." выясьніць гэту справу ў болей культурнай форме, бо пісаць так, як гэта было напісана ў папярэднім нумары, аніяк не выпадае. Моладзь, якая вядзе палеміку ў культурных формах, дае аб сабе добрае пасьведчаньне і перад сваімі і перад чужымі.

---

# З Савецкай Беларусі.

Паводле апошніх вестак камуністы далей вядуць змаганьне з бел. нацыянальным рухам у Сав. Беларусі. Пасьля арыштаваньня Ваўковіча (наступніка Галадзеда) цяпер узяліся за прэсу. Дня 2.Х. газэту „Рабочый" пераіменавалі на „Советская Белоруссия", якая мае выходзіць парасейску ў ліку 35.000 экзэмпляраў.

---

*Усіх, хто нас прасіў паведаміць, якім спосабам найлепш пераслаць грошы за „Бел. Фронт", гэтым паведамляем, што найвыгаднай перасылаць гэтак званым пераказам разрахунковым, які можна дастаць на кожнай пошце за 1 грош. На пераказе трэба напісаць свой і наш адрас і паставіць нумар нашага разрахунку: 100. Перасылка грашэй такім пераказам не коштуе нічога.*

---

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В.Гадлеўскі.*

---

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га лістапада.*

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.